## Ткачэнка зьбіраўся падарваць Ельцына?

**У суботу 18 лютага на аўтавакзале Новалукомля быў арыштаваны 40-гадовы жыхар гэтага горада Уладзімер Ткачэнка (ураджэнец г.Нарыльска).**

Яго затрымалі, калі ён сядаў у аўтобус, каб ехаць на Менск. Менавіта накірунак ягонай паездкі і занепакоіў КДБ і міліцыю, якія напярэдадні візыту ў Менск прэзыдэнта Ельцына сачылі за перамяшчэньнямі ўсіх падазроных асобаў.

На гэты раз "дэтэктывы" не памыліліся. Грамадзянін Ткачэнка (раней, дарэчы, тройчы судзімы за махлярства і разбой) ехаў у сталіцу не з пустымі рукамі. Пры ім знайшлі 8-зарадны самаробны пісталет і 50 патронаў да яго, тры самаробныя бомбы, дзьве падробленыя гербавыя пячаткі дзяржаўных установаў, штампы падатковых інспэкцыяў — Маскоўскага, Ленінскага, Фрунзенскага і Савецкага раёнаў г.Менска.

Але асноўнае "дабро" знаходзілася ў гаражы гр.Ткачэнкі. Падчас вобыску міліцыянты знайшлі там самаробны пісталет са зьменнымі стваламі, безьліч патронаў розных калібраў, дэталі да зброі, а таксама амаль сотню (!) разнастайных пячатак і штампаў розных дзяржаўных устанбваў, камэрцыйных структураў, падатковых інспэкцыяў.

Зь якою мэтаю накіроўваўся ўзброены гр. Ткачэнка ў Менск — сьледзтва не паведамляе.

**Уладзімер СЯРГУН**

## На Беларусі ёсьць толькі адзін прадстаўнік "чацьвёртай улады"...

**У Менску 17—18 лютага адбылася Нацыянальная асамблея прагрэсыўных сілаў, прысьвечаная тэме "Геапалітыка. Інтэграцыя. Прагрэс". У рамках Асамблеі адбыўся "круглы стол", на якім абмяркоўваліся праблемы станаўленьня ў Беларусі "чацьвёртай улады".**

Сымбалічна, што на пытаньне "хто сярод прысутных сапраўды адчувае сябе прадстаўніком "чацьвёртай улады?" адгукнуўся толькі адзін журналіст. Дарэчы, ён прадстаўляе замежную газэту, якая выдаецца ў Маскве. У камэнтарах няма патрэбы...

Тымчасам у Беларусі, як адзначалі ўдзельнікі "круглага стала", прэзыдэнт імкнецца падпарадкаваць сабе заканадаўчую ўладу, судовую, а таксама і чацьвёртую — mass media. Не зважаючы на Канстытуцыю і Закон аб сродках масавай інфармацыі, існуе манаполія ўлады на прэсу, тэлебачаньне і радыё. Да прыкладу, 2/3 газэт — не дзяржаўныя, аднак іхны агульны наклад складае прыблізна 1/8 накладу ўсіх газэтаў. Улада трымае ў сваіх руках і паліграфічныя прадпрыемствы.

Беларусь дагэтуль існуе ў інфармацыйнай прасторы Расеі (з 5 тэлеканалаў — 4 расейскія). І, як было зазначана, уплываць на выбар беларусаў будуць праз TV спэцыялісты расейскіх спэцслужбаў.

У нас не існуе дзяржаўнай інфармацыйнай палітыкі. Мы нічога ня ведаем пра сьвет, і пра нас нічога ня ведаюць. Беларускае інфармацыйнае агенцтва мае толькі двух замежных карэспандэнтаў — у Вільні і Маскве. Яшчэ Кебічаў урад адмовіўся выдзеліць грошы на карэспандэнтаў у Варшаве, Боне і Вашынгтоне. Маўляў, толькі на аднаго амэрыканскага ў год патрэбна 100 тыс. даляраў. Таму беларусы па-ранейшаму глядзяць на падзеі ў сьвеце праз люстэрка Масквы, адкуль да нас прыходзіць уся замежная інфармацыя.

Дзяржава эканоміць на беларускамоўных пэрыядычных выданьнях, але не шкадуе грошай на "монстраў" зь вялікімі тыражамі, якія прапагандуюць у нас антыбеларускія погляды. Гэтыя дзяржаўныя mass media ўбіваюць у сьвядомасьць людзей, што ў пагаршэньні жыцьця вінаватыя міфічныя дэмакраты, што рынкавыя рэформы, дзяржаўная мова і сымболі і наагул сувэрэнітэт — нам непатрэбныя. Прыняты нядаўна Закон аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі ўдзельнікі круглага стала ацанілі як "паліцэйскі".

Адносіны ўладаў да прэсы нагадваюць ранейшае становішча, калі сакратар ЦК КПБ таварыш Пячэньнікаў цынічна гаварыў, што "журналисты — надежные подполковники партии".

Каб на Беларусі ажыцьцяўляліся канстытуцыйныя свабоды на атрыманьне і распаўсюджваньне інфармацыі, неабходна перадусім разьдзяржавіць паліграфічную базу, на тэлебачаньні стварыць назіральную раду, зьменшыць падаткі для mass media, стварыць замежныя карпункты, даць магчымасьць беларусам атрымліваць інфармацыю пра падзеі ў сьвеце ня толькі праз ІТАР-ТАСС, Астанкіна і РТР.

Журналісты прынялі адпаведную рэзалюцыю.

**Сяргей АСТРАУЦОУ**

## Грамада вырашыла "не мяняць коней на пераправе"

**18 лютага адбылася першая сэсія III зьезду Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады.**

Другая сэсія зьезду зьбярэцца роўна праз месяц (18 сакавіка), каб назваць імёны сацыял-дэмакратычных кандыдатаў у дэпутаты ВС. Але ўжо сёньня вядома, што ў барацьбу за дэпутацкія мандаты ўступяць амаль усе 14 сяброў фракцыі БСДГ у цяперашнім Вярхоўным Савеце. Наагул жа мяркуецца, што Грамада выставіць сваіх кандыдатаў прыкладна ў 80-ці акругах.

На зьезьдзе былі абраны новы склад Цэнтральнай Рады БСДГ. У вышэйшы кіраўнічы орган партыі быў абраны таксама былы міністар замежных справаў Беларусі Пётр Краўчанка (супраць было 9 галасоў).

Выбары старшыні партыі і ягонага намесьніка не праводзіліся. Дэлегаты вырашылі "не мяняць коней на пераправе". Выступаючы на зьезьдзе, Алег Трусаў заявіў, што лідар у выпадку няўдалых выбараў павінен сам падаць у адстаўку.

**А.С.**

## Каму гэта выгадна?

**Эўрапейскі банк рэканструкцыі і разьвіцьця выдзеліў швэдзкай фірме 30 мільёнаў ЭКЮ на рамонт і абсталяваньне Ігналінскай АЭС (Літва) найноўшай апаратурай. Аднак швэды адмаўляюцца пачынаць работы, пакуль Беларусь не далучыцца да Венскай канвэнцыі (ВК).**

Згодна з гэтым дакумантам, у выпадку аварыі на АЭС у якасьці спаганятага выспупае дзяржава, а не асобныя юрыдычныя ці фізычныя асобы, якія панесьлі страты. Швэдзкая фірма хоча застрахаваць сябе ад магчымых судовых разборак з грамадзянамі і прадпрыемствамі Беларусі, бо значна таньней у выпадку аварыі мець справу з самою дзяржавай.

Пытаньне пра далучэньне Беларусі да Венскай канвэнцыі актыўна ставілася літоўскімі ўладамі падчас афіцыйнага візыту Аляксандра Лукашэнкі ў Вільню. Беларуская дэлегацыя паабяцала адказаць праз месяц. На просьбу карэспандэнта СІМ унесьці яснасьць па гэтым пытаньні першы намесьнік міністра замежных справаў Валерый Цэпкала адказаў, што канчатковыя вынікі будуць вядомыя толькі пасьля трохбаковых беларуска-швэдзка-літоўскіх перамоваў. Са слоў сп.Цэпкалы, "далучэньне Беларусі да ВК магчымае толькі пасьля таго, калі Беларусі прапануюць нешта ўзамен". Што гэта будзе, сп.Цэпкала не назваў, толькі заявіў, што "хутчэйшае далучэньне Беларусі выгаднае як Швэцыі, так і Літве".

**СІМ**

## Лепш сядзець дома

**З 20 лютага значна павялічыўся кошт праезду на чыгунцы.**

Як паведаміў намесьнік начальніка пасажырскай службы Беларускай чыгункі сп.Паборцаў, цана білетаў у цягніках мясцовых зносінаў павялічылася ў 4 разы, а міждзяржаўных — у 1,6 раза. Кошт праезду ў прыгарадных цягніках пакуль застаецца ранейшым.

**Яўген АЛАДКА**

## Санчукоўскі застаўся на "Гарызонце"

**Адпачыўшы і пагасцяваўшы як мае быць у цешчы ў вёсцы Вуглы Капыльскага раёну, вярнуўся на вытворчае аб'яднаньне "Гарызонт" былы генэральны дырэктар Аляксандар Санчукоўскі.**

Як вядома, доктар эканамічных навук Санчукоўскі быў зьняты з пасады ўказам прэзыдэнта Лукашэнкі. Афіцыйная фармулёўка: "за некампэтэнтнасьць". Дасьведчаныя людзі, аднак, сьцьвярджаюць, што сапраўднаю прычынай звальненьня было тое, што А.Санчукоўскі зьяўляецца "чалавекам Кебіча". Генэральным дырэктарам аб'яднаньня прызначылі тагачаснага галоўнага інжынэра.

Але застаўся на "Гарызонце" і Санчукоўскі: цяпер ён займае тут сьціплую пасаду дырэктара па кадравых і прававых пытаньнях.

**Анатоль НЕСЬЦЯРЭНКА**

*Лісты ў рэдакцыю*

## Нас зноў хочуць паставіць на калені

Апошнім часам пэўныя сілы імкнуцца паставіць пад сумнеў дзяржаўную сымболіку Рэспублікі Беларусь, навязаць краіне ганебны рэфэрэндум аб двухмоўі. Прыкрываючыся "предложениями общественных организаций и отдельных граждан", яны сеюць варожасьць паміж людзьмі, штурхаюць краіну ў полымя грамадзянскай вайны. Вельмі сумна, што гэтыя авантурысты знаходзяць падтрымку вышэйшых дзяржаўных чыноўнікаў і самога прэзыдэнта.

Выступы супраць дзяржаўнай сымболікі — гэта па сутнасьці выступы супраць дзяржаўнасьці — найвялікшай каштоўнасьці, якую выпакутаваў наш народ. Той, хто не разумее гэтага, або авантурыст, або самагубца. Увядзеньне двухмоўя — спроба яшчэ раз паставіць беларускую мову, а гэта значыць — беларускі народ, на калені, загубіць яе канчаткова на радасьць манкуртам.

Мы, настаўнікі сярэдняй школы №1 г.Ваўкавыска Гарадзенскай вобласьці, занепакоеныя спробамі паставіць пад сумнеў дзяржаўную сымболіку Рэспублікі Беларусь, падтрымліваем Пастанову Інстытута гісторыі АН Беларусі ад 12 верасьня 1991 г. і лічым, што сёньня няма ніякіх падставаў мяняць ні сымболіку, ні дзяржаўную мову.

Ні адна дзяржава, ні адзін народ, калі яны сябе паважаюць, ня пойдуць на такі крок, ня стануць праводзіць такую ганебную акцыю. Гэта раўназначна сьмяротнаму прысуду беларусам як нацыі, іх шматвекавой гісторыі, іх культуры.

**М.Дзуновіч, М.Кавальчук, У.Шымбарэцкі, І.Кашкевіч, І.Якубчык і інш.** *(усяго 51 подпіс).*

## Хлопцы ўцякаюць ад вайны

Валодзя К. прыехаў у беларускую вёску да бабулі зь невялікага мястэчка ў Падмаскоўі. Днямі юнаку спаўняецца 18 год, а расейскія ваенкаматы дужа апэратыўныя. Пэрспэктыва ж паехаць у Чачню альбо Таджыкістан і стаць там героем Валодзю і ягоным бацькам не спадабалася, тым больш, што, са словаў юнака, некалькі маладых хлопцаў у іхнае мястэчка прывезьлі ў цынкавых трунах. Таму многія, хто мае родзічаў у Беларусі ці на Украіне, папросту ратуюцца ад расейскага войска ўцёкамі. Разам з Валодзем ехалі да сваякоў на Украіну трое гэткіх жа юнакоў. Этнічным расейцам цяжэй — ім ехаць няма куды, таму многія выпісваюцца з ваенкаматаў і ціха сядзяць дома, спадзеючыся перачакаць трагічныя падзеі.

Першая спроба неяк легалізавацца Валодзю не ўдалася. Раённыя ўлады параілі юнаку зьбіраць дакументы для атрыманьня беларускага грамадзянства. Спадзяемся, што ўсё скончыцца шчасьліва.

Неўзабаве ў нас будуць выбары, таму сем разоў трэба будзе падумаць, перш чым прагаласаваць, каб ня трапілі ў Вярхоўны Савет розныя некрафілы, што прагнуць аднавіць Савецкі Саюз, ды прыхільнікі аб'яднаньня "чатырох славянскіх народаў" (чацьвёрты, як высьвятляецца, — казакі).

**Мікола БУСЕЛ,**
**вёска Дуброва, Сьветлагорскі раён**

## Падабаецца?

*Паважаная рэдакцыя СВАБОДЫ! Мне 16 гадоў. Выпісваю вашу газэту нядаўна, бо ня ведаў, што ў нас ёсьць такая газэта. Дасылаю вам свае малюнкі, сябры кажуць, што яны вельмі цікавыя. Ці падабаюцца яны вам?*

**Зь вялікай павагай**
**Аляксей БОЙКА,**
**г.Лунінец**



